І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове ТРАВЕНЬ-3 2012

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Зімовы этап футбольнага Кубка Справаводства па-беларуску!" – 2012:













стар. 4

# Нават туркмен загаварыў па-беларуску на матчы ў Гомелі

**Тэрарыст у масцы з арабскім надпісам спрабаваў падарваць міліцыю ў Жлобіне**

стар. 2

**Бел-чырвона-белыя сцягі побач з чырвона-зялёнымі ў Хельсінкі**

стар. 3

# Тэрарыст у масцы з арабскім надпісам спрабаваў падарваць міліцыю ў Жлобіне

***КДБ сцвярджае, што міліцыянты затрымалі сапраўднага тэрарыста.***

Як паведамляе Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў (ЦІГС) КДБ Беларусі, мужчына быў затрыманы 24 мая каля 12.00 супрацоўнікамі МУС на месцы здзяйснення злачынства, якое кваліфікуецца па ч. 1 арт. 14 і ч. 1 арт. 289 КК Беларусі (замах на ўчыненне акту тэрарызму).

У масцы з надпісам на арабскай мове і ёмістасцямі з запальнай сумессю самаробнай выбуховай прыладай магутнасцю каля пяці кілаграмаў у трацілавым эквіваленце ён «спрабаваў здзейсніць тэрарыстычныя дзеянні ў дачыненні да супрацоўнікаў падраздзялення МУС па месцы іх дыслакацыі».

Дзе менавіта мужчына быў затрыманы, не ўдакладняецца. Паводле звестак БелаПАН, гэта адбылося ў Жлобіне.

Па факце здзяйснення злачынных дзеянняў УКДБ па Гомельскай вобласці распачата крымінальная справа. Пачата расследаванне сумеснай аператыўна-следчай групай КДБ і Следчага камітэта Беларусі.

«Атрыманыя першыя звесткі паказваюць на наяўнасць сувязяў грамадзяніна з арганізаванай злачыннай групай па перапраўцы грамадзян Афганістана ў адну з еўрапейскіх краін. Звяртае на сябе ўвагу факт затрымання з прыцягненнем супрацоўнікаў спецпадраздзялення ў паказаным рэгіёне ў маі аднаго з лідараў арганізаванай злачыннай групы», — гаворыцца ў паведамленні ЦІГС КДБ.

Па словах суразмоўцаў агенцтва «Інтэрфакс», зламыснік быў затрыманы супрацоўнікамі міжраённага аддзела ГУБАЗ, «калі ён паспрабаваў злучыць драты на выбуховай прыладзе». «Перад гэтым ён кінуў бутэльку ў будынак — імаверна, з мэтай адцягнуць увагу супрацоўнікаў міліцыі, каб потым прывесці ў дзеянне выбуховае прыстасаванне», — удакладнілі ў праваахоўных органах.

Паведамляецца, што цяпер праводзіцца псіхіятрычная экспертыза затрыманага. Пра яго пішуць, што гэта мясцовы жыхар 1991 года нараджэння, беспрацоўны.

«Ніякіх патрабаванняў ён не вылучаў. Пакуль што аб матывах яго дзеянняў казаць рана», — сказалі агенцтву.

Я сапраўды не ведаю, як паўплываць на сітуацыю, як абараніць сваю сям'ю», — прызнаецца ён.

*БелаПАН*

# 2 тыс. даляраў за забойства мужа

***Жыхарка Гомеля 1961 года нараджэння арыштаваная па абвінавачванні ў падрыхтоўцы наўмыснага забойства па найму. Жанчына хацела забіць мужа 1965 года нараджэння, паведамілі ў прэс-службе ўпраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці.***

Жанчына актыўна стала шукаць выканаўцы замовы. За забойства мужа яна гатовая была заплаціць $2 тыс. У якасці перадаплаты гамяльчанка аддала частку сумы. Аднак супрацоўнікі абласнога ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС, якія атрымалі гэтую інфармацыю, не далі давесці справу да канца.

Заведзена крымінальная справа. Жанчына арыштаваная і знаходзіцца ў СІЗА

*БелТА*

Рабіновач па турпуцёўцы паехаў у Парыж. Пасьля агляду ўсіх цікавостак ён вырашыў паглядзець, чым жа так славяцца француськія жанчыны і пайшоў у публічны дом. Пасьля ўсіх спраў выходзіць ён адтуль, задумаўся, плюнуў на тратуар, а тут адкуль ні вазьміся паліцмэн:

- За тое, што плявалі на тратуар штраф 100 еўра!

Рабіновіч ня стаў спрачацца і заплаціў.

Па прыезьдзе дадому ён натхнёна расказвае сваёй Сары пра парыжскія дзівосы. А сара пытаецца:

- Мяне ты там пэўна ні разу ня ўспомніў?

- Сарачка, адзін раз успомніў, дык прыйшлося 100 еўра заплаціць!

# Бел-чырвона-белыя сцягі побач з чырвона-зялёнымі ў Хельсінкі

***Гульня беларускай каманды не радуе, але беларусы ўсё адно з'язджаюцца, каб падтрымаць сваіх. На матчы Беларусь-Францыя заўзятары віталі зборную як афіцыйнымі, так і нацыянальнымі сцягамі.***

Сярод фанатаў з бел-чырвона-белымі сцягамі быў гамяльчук Ігар Случак, аўтар ідэі «Справаводства па-беларуску!». Хлопец вучыцца ў Эстоніі. У Хельсінкі прыехаў на пароме з Таліна.

Ігар даўно марыў трапіць на Чэмпіянат свету па хакеі.

А матч Беларусь-Францыя 14 мая выбраў адмыслова. У гэты дзень у 95-м годзе нацыянальныя герб і сцяг былі замененыя савецкай сімволікай.

Сяргей, беларус з Піцера, і яго сябар Віктар прыехалі ў Хельсінкі на некалькі матчаў з удзелам нашай зборнай. Сяргей родам з Берасцейшчыны, апошнія 8 гадоў жыве ў Расіі, але радзіму не забывае.

Хадзіў на канцэрт «Ляпісаў» у Піцеры, а зараз вось прыехаў падтрымаць нашых нацыянальным сцягам.

На стадыёне непадалёку ад яго сядзеў старшыня Федэрацыі хакея Беларусі Яўген Ворсін. Сяргей сфатаграфаваўся разам з ім. Але

Ворсін не хацеў, каб у кадр трапіў б-ч-б сцяг, «каб не падумалі, што ён «з нашых», смяецца піцерскі беларус.

Аднак больш за ўсё бел-чырвона-белых сцягоў было ў… фінскіх хлопцаў і дзяўчат, мясцовых дэмакратычных актывістаў. Сцягі яны пашылі на заказ.

Апроч сцягоў прынеслі плакаты «Free Belarus» («Вольная Беларусь»), «Lukashenka resign» («Лукашэнка, ідзі ў адстаўку») ды б-ч-б акуляры.

У першым тайме фіны сядзелі асобна. У перапынку іх адшукалі беларускія заўзятары, і рэшту гульні яны сядзелі разам.

Нашы заўзятары як з чырвона-зялёнымі, так і з бел-чырвона-белымі сцягамі, крычалі па-беларуску «Беларусы - назаўжды!» і «Нам трэба гол!». Аднак на вынік гульні гэта, на жаль, не паўплывала.

*Аксана Рудовіч, Хельсінкі*



# Дзмітрый Калдун стане тварам швейнай фабрыкі «Камінтэрн»

***Вядомы беларускі спявак Дзмітрый Калдун стане тварам найбуйнейшага вытворцы мужчынскіх касцюмаў — адкрытага акцыянернага таварыства «Камінтэрн». Пра гэта паведаміў сёння ў Гомелі журналістам генеральны дырэктар прадпрыемства Пётр Афончанка.***

«Ужо праведзеная фотасесія з удзелам Дзмітрыя Калдуна, пачалася праца па падрыхтоўцы друкаваных выданняў.

Калекцыя касцюмаў, якую прадстаўляў спявак (пяць касцюмаў з калекцыі 2013 года), так яму спадабалася, што Дзмітрый ўсю яе выкупіў», —

распавёў Пётр Афончанка.

ААТ «Камінтэрн» ў 2012 годзе паставіць у гандлёвую сетку каля 600 тыс. адзінак швейных вырабаў, у асноўным мужчынскіх касцюмаў шасці калекцый (больш за 200 мадэляў).

Супрацоўніцтва з беларускімі спевакамі на гэтым не сканчаецца. Па словах генеральнага дырэктара,

у канцы мая ў Гомель прыедзе Руслан Аляхно, якога таксама плануюць задзейнічаць у рэкламе прадукцыі «Камінтэрна».

*БелТА*

Цемната. Дупла. Уверсе вісяць два кажаны:

- А скажы, калі ў цябе быў самы благі дзень?

- Аднойчы быў у мяне панос...

# Нават туркмен загаварыў па-беларуску на матчы ў Гомелі



***«Справаводства па-беларуску!» папулярызуе мову праз футбол.***

19 мая у дзень правядзення фіналу Лігі Чэмпіёнаў у Гомелі адбыўся чарговы этап футбольнага кубка «Справаводства па-беларуску!»-2012.

Мэта турніра – заахвоціць людзей да больш шырокага ўжытку беларускай мовы, кажа Ігар Случак, кіраўнік ініцыятывы.

Гэтым разам гулялі 6 каманд: «СпБ-09» («Справаводства па-беларуску!»), «ПТК» (сайт Pytalnik.tk), «Замежныя студэнты», «Мерв» (каманда туркменаў), «Аскорд» (гарадская каманда) і «БелГУТ» (студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту).

Агулам было праведзена 9 матчаў плюс 3 серыі пенальці.

Пераможцам турніру стала каманда арганізатараў – «СпБ-09». Другое і трэцяе месца занялі «Аскорд» і «Замежныя студэнты» адпаведна.

Гульні каментавалі па-беларуску Ігар Случак і Яўген Мароз. Апошні з’яўляецца трэнерам каманды «СпБ-09». Хлопец навучаецца ў Музычнай акадэміі. Ён каранямі з Расеі, але даўно жыве ў Гомелі і ведае мову.

Цікава, што на папярэднім турніры знайшоўся туркмен, які гаварыў па-беларуску.

«Гэта была цяжкая перамога. Тры каманды маглі стаць чэмпіёнамі, але ім стала «СпБ-09», і гэта сімвалічна.



# Нават туркмен загаварыў па-беларуску на матчы ў Гомелі. Працяг



Самая беларускамоўная каманда перамагла дастойна, не прайграўшы ніводнага матча. Я вельмі ганаруся хлопцамі», — кажа Мароз.

Усе ўдзельнікі турніра атрымалі памятныя падарункі, а каманды-пераможцы — яшчэ і кубкі. Найлепшым гульцом турніру быў прызнаны брамнік «СпБ-09».




Першы кубак «Справаводства па-беларуску!» адбыўся ў снежні 2011 года. Тады перамагла каманда «ГумНо». У гэтым годзе кубак праводзіцца ў 4 этапы. Зімовы і веснавы турніры ўжо згуляныя, наперадзе яшчэ два.

Удзел у Кубку-2012 можа ўзяць любая каманда і з любога этапа. Арганізатары не выключаюць правядзенне гульняў і ў іншых гарадах.

Каманда «ПТК» атрымала прыз «за стабільнасць», бо ўдзельнічала ва ўсіх этапах Кубка.

*Аксана Рудовіч*

*Яшчэ 374 фота можна паглядзець па спасылцы: http://vk.com/album-19441275_157406395*

*Відэа можна паглядзець па спасылцы: http://vk.com/videos-19441275 і http://www.youtube.com/user/IharSluchak*

Спартыўны каментатар пасля забегу бярэ інтэрв'ю ў беларускага лыжніка:
- Вось вам перамагчы не ўдалося, але сама гонка вам спадабалася?
- Самагонка спадабалася. але бегчы пасля яе - жах!

ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# БАТЭ не выключае, што галоўнаму трэнеру «Гомеля» давядзецца сесці на лаву падсудных

***Футбольны клуб выступіў з заявай наконт выказванняў Алега Кубарава.***

З рэзкай заявай наконт выказванняў галоўнага трэнера ФК «Гомель» Алега Кубарава выступіў барысаўскі БАТЭ.

У заяве падкрэсліваецца, што ў паводзінах яго калегі Віктара Ганчарэнкі і іншых членаў трэнерскага штаба не было непавагі да саперніка:

«Настаўнікі нашай каманды не дазволілі сабе ніводнага несправядлівага выказвання, жэста або іншага зневажальнага дзеяння ў адрас гульцоў, трэнерскага штаба ці балельшчыкаў ФК „Гомель“.

Нам хочацца спадзявацца, што гэтая недарэчная заява была зроблена Алегам Міхайлавічам выключна ў стане афекту, выклiканага няўдалымі дзеяннямі яго дружыны і спякотным надвор'ем».

БАТЭ прапаноўвае Кубараву «ўзяць сябе ў рукі» і гарантуе «першакласны прыём» на сваім стадыёне.

«У прыватнасці, мы абяцаем, што на пасляматчавай прэс-канферэнцыі не будзе неадэкватных пабочных людзей, якія не маюць ніякіх адносінаў да СМІ і спрабуюць справакаваць трэнера гасцей на грубасць, як гэта было ў суботу ў Гомелі»,

— піша барысаўскі клуб. «Вядома, спадар Кубараў мае поўнае права не прыязджаць у Барысаў і не кіраваць сваёй камандай з лавы запасных, — зазначаецца ў дакуменце. — Але не выключана, што яму давядзецца размясціцца на іншай лаве, месцы на якой звычайна займаюць людзі з да болю знаёмым Алегу Міхайлавічу лексіконам. ФК БАТЭ пакідае за сабой права звярнуцца не толькі ў АБФФ, але і ў судовыя інстанцыі — з патрабаваннем кампенсацыі маральнага ўрону, а таксама ўрону гонару і годнасці нашаму клубу».

БАТЭ жадае Кубараву «ўменняз годнасцю прымаць паражэнні, якія наносяцца яго камандзе ў сумленнай спартыўнай барацьбе» (барысаўская каманда выйграла 1:0 і адарвалася ад гомельскай на чатыры ачкі).

«Калі футбольны клуб „Гомель“ або нехта іншы прадставіць нам вычарпальную і праўдзівую інфармацыю пра сказанае спадарамі Кубаравым і Дулубам (старшы трэнер гамяльчан. —), мы без ваганняў выкажам свае прабачэнні. Але мы ўпэўнены: нічога такога не існуе, таму што гэтага не было», — падкрэсліваецца ў заяве.

У інтэрв'ю спартыўнаму парталу goals.by Дулуб, у прыватнасці, паведаміў: «Калі барысаўчане забілі,

Аляксей Бага (трэнер БАТЭ, старэйшы брат аўтара гола Дзмітрыя Багі. —) выскачыў у напрамку нашай лаўкі са словамі «Сасіце, п…сы!».

Пасля такога рэакцыя Алега Міхайлавіча абсалютна нармальная. Яшчэ пасля заканчэння матчу з аналагічнымі словамі, дэманструючы ўсе свае вартасці, падбег Канцавы. І гэта бачылі прысутныя на стадыёне балельшчыкі. І пытанні трэба задаваць не трэнерскаму штабу „Гомеля“, а БАТЭ і федэрацыі футбола. Мы ж сваю справу робім сумленна».

На прэс-канферэнцыі пасля заканчэння матчу Кубараў прыйшоў толькі пасля таго, як яе са скандалам пакінуў Ганчарэнка. Яго вывеў з сябе, паводле фармулёўкі прэс-службы БАТЭ, «балельшчык без журналісцкай акрэдытацыі, які невядома як апынуўся ў прэс-цэнтры».

«Шчыра кажучы, мне не хочацца знаходзіцца побач, — сказаў настаўнік гаспадароў. — Я разумею эмоцыі. У канцы гульні футбаліст падбягае, апошнімі словамі нас зневажае, каманду. Мне зразумела — гэта футбаліст.

Але калі трэнер у твар кажа словамі, якіх я вось, будучы там, наведаўшы турму, я такіх слоў там не чуў, то, калі шчыра, мне нават у Барысаў ехаць не хочацца на матч у адказ… Нельга так сябе паводзіць.

Можна ў газетах разводзіць мусі-пусі, брат, сястра, у акадэміях, ва ўніверсітэтах вучыць, але калі ў твар такія ідуць знявагі, то разумееш, што за гэтым стаіць. Такое стаўленне да цябе як да саперніка… Зняважылі не мяне асабіста — зняважылі ўсіх. Прыходзяць дзевяць тысяч [гледачоў]. На вачах у дзевяці тысяч ну трэба ж крышку думаць. Футбалісты, эмоцыі, хакеісты, яны могуць біцца, лаяцца. Мы разумеем, таму што яны выходзяць. Але трэнер ну крышку ж павінен думаць. Тым больш клуб, які гуляе ў еўракубках. Напэўна, перад Пелегрыні або перад кім на задніх лапках ходзяць, задніцу цалуюць: раскажыце нам, пакажыце. А тут такое стаўленне».

*БелаПАН*

Ступені ап'яненьня беларуса.

1) Эксперт:

- Слухай сюды, я табе зараз усё растлумачу...

2) Багач:

- Давай яшчэ па адной, я прастаўляю!

3) Рэвалюцыянер:

- Гады! Што яны з народам робяць!

4) Зьдзіўлены:

- Хто п'яны? Я п'яны?

# Гамяльчук адсудзіў у life:) 350 тысяч рублёў

***У сакавіку 2011 года гамяльчук Максім Галацін, праз некалькі месяцаў пасля атрымання планшэта па адной з прапановаў аператара life:), заўважыў на матрыцы «біты» піксель, а ў дадатак да ўсяго зламалася зарадная прыладфа.***

Тавар ён аднёс у гомельскі цэнтр абслугоўвання кампаніі. Планшэт забралі на рамонт, але вярнулі толькі праз 70 дзён, хоць паводле закона максімальны тэрмін рамонту па гарантыі павінен складаць не больш за 14 дзён. Недахопы цалкам не ліквідавалі, а праз паўтара месяца пакупку зноў давялося несці ў цэнтр абслугоўвання.




Вынікаў не было і гэтым разам. Нанесеную маральную шкоду Максім ацаніў у 2 мільёны рублёў. Патлумачыў гэта тым, што адсутнасць планшэта моцна адбілася на якасці яго працы.

Паводле словаў Максіма, «аператар спасылаўся на тое, што ён усяго толькі дае паслугі сувязі і мае ўскоснае дачыненне да абсталявання». Суд такія довады палічыў неабгрунтаванымі і пастанавіў спагнаць на карысць пазоўніка з ЗАТ «БеСТ» 350 тысяч рублёў.

— Справа ж не ў грашах, — прызнаўся Максім. — Проста хацелася даказаць сваю рацыю. Многія баяцца звяртацца ў суд па такіх пытаннях, а можна ісці да канца і змагацца за справядлівасць.

— Цяпер рэдка які сэрвісцэнтр укладваецца ў 14 дзён, — кажа старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі Беларускага таварыства абароны спажыўцоў Марыя Вальчанка. — Больш за ўсё затрымліваецца рамонт мабільных тэлефонаў і ноўтбукаў.

— Што рабіць чалавеку, які аддаў тавар на рамонт у іншы горад і доўгі час не можа атрымаць яго назад?

— У такім выпадку можна падрыхтаваць пісьмовыя прэтэнзіі да прадаўца, у якога быў набыты тавар, і патрабаваць няўстойку. А там яны няхай самі разбіраюцца. Калі гэтае патрабаванне не выконваецца, значыць, спажывец мае поўнае права звярнуцца ў суд. Не магу і ўспомніць выпадку, каб хтосьці праз суд не абараніў свае правы, звязаныя з заканчэннем тэрміна на рамонт тавару. Многія проста не хочуць увязвацца ў судовыя працэсы і займацца папяровай цяганінай. Таму што гэтыя пытанні не вырашаюцца за адзін дзень.

*tech.onliner.by*

# Светлагорскія школьнікі знялі на мабільнік шакуючае відэа згвалтавання

***Распачатая крымінальная справа.***

Знятае на мабільны тэлефон згвалтаванне школьніцы светлагорскія падлеткі перадавалі з рук у рукі да тых часоў, пакуль гэтым фактам не зацікавіліся супрацоўнікі ўпраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці.

Следства пачало набіраць абароты, калі шакуючае відэа трапіла ў поле зроку аднаго з мясцовых міліцыянтаў, паінфармавала прэс-сакратар упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава. Менавіта відэазапіс групавога згвалтавання стаў доказам злачынства і падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы.

Згвалтаванне школьніцы адбылося ў кватэры, дзе для прыемнага баўлення часу сабралася кампанія маладых людзей, у тым ліку і дзяўчаты.

Злачынства было знята на відэакамеру тэлефона.

Пасля ні пацярпелая дзяўчына, ні яе бацькі, якім ад крыўдзіцеляў дачкі паступалі пагрозы, з заявай у праваахоўныя органы не звярталіся.

Па падазрэнні ў злачынстве затрыманыя двое жыхароў Светлагорска, адзін з іх непаўналетні.

Абодвум прад'яўлена абвінавачанне ў згвалтаванні, здзейсненае групай асобаў. Цяпер следчыя праводзяць апытанні удзельнікаў і сведак дадзенага злачынства.

*«Гомельская праўда»*

# КДБ пасадзіў мазырскага «кума»

***Упраўленнем Камітэта дзяржаўнай бяспекі затрыманы намеснік начальніка па рэжыме і аператыўнай працы ВК-20, размешчанай у Мазыры.***

Паводле дадзеных КДБ, падпалкоўнік унутранай службы, намеснік начальніка па рэжыме і аператыўнай працы (на турэмным слэнгу — «кум») ВК-20 Дэпартамента выканання пакаранняў МУС, быў затрыманы чэкістамі яшчэ месяц таму. Як звычайна, адразу пасля затрымання папаўзлі чуткі пра чарговыя разборкі паміж ведамствамі, але праўда аказалася больш празаічнай.

Па сутнасці, затрыманы «кум» так вольна адчуваў сябе на пасадзе начальніка аператыўнай часці выпраўленчай калоніі, што браў на сябе смеласць вырашаць лёс і ўмовы ўтрымання зняволеных. Натуральна, не бясплатна.

Як высветлілі аператыўнікі КДБ, падпалкоўнік браў са зняволеных хабар за спрыяльнае рашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю. Гаворка ідзе пра змякчэнне рэжыму і ўмоваў адбыцця пакарання зняволеных.

Пакуль у справе фігуруе толькі спроба атрымання ў якасці хабару аўтамабіля «Аўдзі» за вырашэнне пытання пра змену ўмоваў адбыцця пакарання двух зняволеных. Але расследаванне толькі пачалося, і не выключана, што падчас яго будуць выяўленыя новыя супрацьпраўныя факты.

Пакуль жа Упраўленнем Следчага камітэта па Гомельскай вобласці ў дачыненні да падпалкоўніка заведзеная крымінальная справа па ч.1 арт.14 і ч.3 арт.430 Крымінальнага кодэкса Беларусі (спроба атрымання хабару ў асабліва буйным памеры, альбо арганізаванай групай, альбо асобай, якая займае адказнае становішча).

*ej.by*



M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі травень-3 2012"
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA